www.nv-online.info

№ 30 (4077)

19 красавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НАДВОР'Е

## Не хавайце парасоны

На бягучым тыдні ў Беларусі будзе халаднаватае надвор'е, чакаюцца дажджы і нават мокры снег. Яшчэ сёння, 19 красавіка, удзень – ад 9 да 15 градусаў са знакам плюс. А ўжо ў сераду і чацвер амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі дажджы (месцамі – мокры снег). Чакаецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15–20 метраў за секунду. У начныя гадзіны тэмпература паветра складзе 1–6 цяпла, у дзённыя – ад 4 градусаў са знакам плюс на поўначы да 11 градусаў на Гомельшчыне. У пятніцу ў начныя гадзіны слупок тэрмометра апусціцца ніжэй нуля – тэмпература паветра складзе ад 3 марозу да 4 градусаў са знакам плюс, у дзённыя – 6–13 цяпла (на поўдні – да 15 градусаў).

ЛІСТ ДА СЯБРОЎ

# Згуртуемся!

Шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі" – падпісчыкі і ўсе, хто рэгулярна набывае газету ў шапіках!

Рэдакцыя вымушана звярнуцца да Вас вось з якой нагоды.

Скажам шчыра: нас, супрацоўнікаў творчага калектыву, не задавальняе сённяшні тыраж газеты. Па-першае, ён не дазваляе вырвацца з фінансавага палону, а па-другое, не спрыяе ў поўнай меры належнаму ўплыву выдання на развіццё падзей у краіне.

Што зрабіць, каб чытацкая аўдыторыя "Народнай Волі" была больш масавай?

Давайце, паважаныя сябры, разам пашукаем адказ на гэтае пытанне.

Наша галоўная місія – зрабіць газету яшчэ больш цікавай, больш змястоўнай, больш вострай і злабадзённай. Менавіта на гэта скіраваны наш стратэгічны курс, якога мы прытрымліваемся ўжо дваццаць першы год.

**Адстойвалі Беларусь, яе незалежнасць, яе нацыянальнае адраджэнне – і будзем адстойваць!**

**Мацавалі дэмакратыю – і далей будзем мацаваць!**

**Баранілі правы чалавека – і будзем бараніць!**

**Бязлітасна крытыкавалі тых, хто з'яўляецца тормазам на шляху да лепшага жыцця, – і будзем крытыкаваць, без аглядкі на высокія чыны і прыналежнасць да той ці іншай палітычнай сілы!**

**Гарой стаялі за ПРАЎДУ – і будзем стаяць!**

Пры гэтым мы, журналісты, усведамляем: чым больш у газеты чытачоў, тым больш яе ўплыў на ўсе бакі жыцця нашай краіны. Вось чаму рэдакцыя вырашыла звярнуцца да Вас, нашых сталых падпісчыкаў, і ўсіх, хто сістэматычна набывае "Народную Волю" ў шапіках, з перакананай просьбай: **давайце разам правядзём з 20 красавіка па 20 мая месячнік пашырэння кола нашых сяброў.** Калі кожны з Вас сагітуе, далучыць да "Народнай Волі" хаця б аднаго чалавека – нас адразу стане на дзясяткі тысяч болей. А калі да Вашай персанальнай парады прыслухаюцца два-тры чалавекі? Вось тта будзе згуртаванне!

Ведаем, многія з Вас, нашых даўнішніх падпісчыкаў і пакупнікоў газеты ў шапіках, кіруюць калектывамі – знайдзіце, калі ласка, магчымасць распавесці сваім работнікам пра "Народную Волю", пра звышадказную ролю, якую яна адыгрывае ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі. Параіце ім уліцца ў гурт прыхільнікаў дэмакратычнай газеты, афоміўшы падпіску ўжо на бліжэйшы месяц. Для гэтага шмат часу не патрэбна – дастаткова зазірнуць у любое паштовае аддзяленне на некалькі хвілін.

Шматгадовыя нашы сябры! Звярніце, калі ласка, увагу на такую рэч: у Вашага суседа пустуе паштовая скрынка. Ён, можа, газет наогул не чытае, маўляў, "усё там хлусня"... Але гэта хіба пра нас? Вы таму прапануйце раз-другі прачытаць цікавыя і змястоўныя матэрыялы "Народнай Волі". Глядзіш, і ён стане нашым сябрам. Падкажыце яму, што кошт падпіскі на месяц – усяго 58.000 рублёў. Што гэта за сума – зробім хаця б такое параўнанне: кілаграм больш-менш нармальнай сыравяленай каўбасы цяпер каштуе пад 200.000 рублёў...

Скажам адкрыта: ёсць нямала людзей, якія з задавальненнем чыталі б "Народную Волю", але іх фінансавае становішча з розных прычын настолькі кепскае, што яны не могуць звесці канцы з канцамі, для іх, на жаль, і 58.000 рублёў – вялікія грошы. Ці ж можа рэдакцыя газеты ў такіх варунках не звярнуцца да тых, хто мацней стаіць на нагах, хто, дзякуй Богу, надрэнна пачуваецца ў гэты крызісны час: працягніце, даражэнькія, руку дапамогі згаданым людзям! Чалавек, якому Вы аформіце падпіску на "Народную Волю", узмацнее духам, зойме больш актыўную грамадзянскую пазіцыю, знойдзе выйсце з цяжкай сітуацыі. У любым выпадку Ваша дабрачыннасць адгукнецца ў яго сэрцы!

Можна прадоўжыць шэраг парад, як уключыцца ў аб'яўлены месячнік дзеля пашырэння кола падпісчыкаў "Народнай Волі". Але, мяркуем, Вы, нашы даўнія прыхільнікі, і самі добра ведаеце, якім чынам лепш прыцягнуць увагу да любімай Вамі газеты тых, хто, шкада, яшчэ не трымае яе ў руках. І рэдакцыя моцна разлічвае на Вашу дапамогу.

**Сіла "Народнай Волі" – у нашай агульнай сіле: сіле тых, хто стварае газету, і тых, хто яе чытае.**

**Чым больш нас будзе, тым большую карысць мы зможам прынесці роднай Беларусі, а значыць, і самім сабе.**

Згуртуемся, людзі добрыя!

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

***З 20 красавіка па 20 мая – месячнік па пашырэнні кола падпісчыкаў «Народнай Волі».***

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## Дапамогу па беспрацоўі не павялічаць

У Азербайджане сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі знаходзіцца на ўзроўні 166 долараў, у Расіі – 63, у Малдове – 67, ва Украіне – 56 долараў, а ў Беларусі беспрацоўным грамадзянам плацяць ад 147 тысяч да 420 тысяч рублёў (ад 7,2 да 20 долараў). Грамадскасць прапаноўвала павысіць памер гэтай дапамогі да ўзроўню бюджэту пражытачнага мінімуму. Зараз гэта 1 мільён 640 тысяч рублёў (або 81 долар па курсе Нацбанка).

Але дэпутаты нават не палічылі патрэбным разглядаць гэтае пытанне, калі абмяркоўвалі закон аб занятасці, які збіраюцца прыняць на вясновай сесіі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГОЛАС ПАРТЫІ

## 3 удзелам 700 чалавек

Абласная арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) 18 красавіка падала заяўку ў гарвыканкам Брэста на правядзенне мітынгу. Як расказала старшыня арганізацыі Ганна Канюс, гадзінная дэманстрацыя па цэнтральных вуліцах Брэста з удзелам 700 чалавек намячаецца на 7 мая. Мэта акцыі – выказаць пратэст у сувязі з прыняццем дэкрэта №3 "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымаенства", павышэннем пенсіённага ўзросту; патрабаванне вяртання ў стражавы пенсіённы стаж тэрміну службы ў войску, водпуску па доглядзе за дзіцем, вучобы ў ВНУ, перыяду догляду за інвалідам першай групы або дзіцяці-інвалідам, а таксама за састарэлымі, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту.

СКАЗАНО!



Александр ЛУКАШЕНКО:

*– У вас еще есть квартал для того, чтобы сгруппироваться и показать соответствующие результаты. Если нет, придут другие люди, которые должны этим заниматься. Поэтому собирайтесь вместе и действуйте. Если кто-то что-то не тянет, вносите немедленно предложения. Спрятаться за спину кого бы то ни было не получится.*

***(Из вчерашнего заявления А.Г.Лукашенко, во время отчета правительства, Нацбанка и губернаторов об итогах развития страны в первом квартале текущего года и мерах по повышению эффективности экономики.)***

БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

## «Отвинчу голову, положу подмышку, и пойдете, если сможете»

Угрозы со стороны Лукашенко отправить правительство и директорский корпус в отставку звучат постоянно. Вот цитата Лукашенко, датируемая июнем 2014 года: **«В ближайшее время мы проведем серьезную ротацию кадров и заменим, начиная от правительства до руководства крупных предприятий, которые обеспечивают благосостояние нашей страны, если не будет должного результата».**

В ноябре 2011 года на совещании по вопросу распоряжения государственным имуществом Александр Лукашенко критиковал правительство и обвинил его в увлечении рынком: **«Я терплю это до 1 января, а потом у вас останется срок до 1 мая, ну, до 9-го, до Дня Победы, и население совершенно по-иному должно оценивать политику в государстве».**

Осенью 2012-го все тому же правительству Лукашенко поставил «меньше двойки», когда отчитывал за провал в работе кожевенной и обувной отрасли.

Осенью 2013-го из-за недовольства работой правительства по выполнению программы по строительству торгово-логистических центров в стране президент и вовсе заявил: **«Отвинчу голову, положу подмышку, и пойдете, если сможете».**

Что и говорить, силен А.Лукашенко в нагнетании страстей! Не занимать ему творческих способностей в подборе образных выражений. Но что за словами? Не «отвинтил» он голову тому же М.Мясниковичу, который не один год возглавлял правительство. Не «отвинтит» он голову и А.Кобякову, нынешнему премьеру. Потому что они лишь исполнители воли президента. Ну как ты добьешься каких-либо серьезных результатов без настоящих реформ? Улучшать то, что давным-давно устарело, заржавело, прогнило, вышло из моды, отстало от прогресса – это все равно что на зонтике от дождя подниматься в космос.

Так что вчерашнее заявление А.Г.Лукашенко – это, скорее всего, лишь очередное сотрясение воздуха.

**Анна ГОНЧАРИК.**

## Расія забараняе ўкраінскія арганізацыі

У РФ хочуць прызнаць «непажаданымі» тры ўкраінскія арганізацыі. Гаворка ідзе пра Сусветны кангрэс украінцаў, Украінскі сусветны каардынацыйны савет і Крымскую палявую місію па правах чалавека.

Летась Савет федэрацыі Расіі рабіў захады, каб прыняць дадатковыя меры па супрацьдзеянні «антырасійскай актыўнасці замежных і міжнародных няўрадавых арганізацый».

У гэты зварот увайшоў «стоп-ліст» з 12 арганізацый, дзейнасць якіх, на думку сенатараў, «непажаданая на тэрыторыі РФ»: Фонд Сораса, Нацыянальны фонд дэмакратыі (NED), Міжнародны рэспубліканскі інстытут (IRI), Нацыянальны дэмакратычны інстытут па міжнародных пытаннях (NDI), Фонд МакАртураў, Freedom House, Фонд Чарльза Сцюарта Мота, Фонд «Адукацыя для дэмакратыі» (FED), Усходнееўрапейскі дэмакратычны цэнтр, Сусветны кангрэс украінцаў, Украінскі сусветны каардынацыйны савет і Крымская палявая місія па правах чалавека.

РЕАЛИИ

## Купил «Майбах» – готовься к проверке налоговой

Начальник инспекции Министерства по налогам и сборам по Минску **Андрей Соболевский** на оперативном совещании в Мингорисполкоме, сообщил, что в I квартале текущего года налоговая служба проанализировала доходы граждан, приобретавших ранее дорогие автомобили.

В результате выявлены факты регистрации транспортных средств на людей преклонного возраста. *«Так, два автомобиля «Бентли» оформлены на граждан 1941 года рождения, а владелицей «Порше» является гражданка 1935 года рождения. Всего в поле зрения налоговых органов попали более 100 человек – это владельцы транспортных средств элитных марок: «Бентли», «Мазерати», «Ламборгини», «Порше» (2015 года выпуска), «Ягуар», «Майбах», «Астон-Мартин», «Феррари», «Роллс-Ройс».*

Треть информации уже отработана, гражданам предъявлено к уплате более 200 млн рублей.

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

# Загрымім пад фанфары

Які сэнс Аляксандру Лукашэнку ладзіць зараз V Усебеларускі народны сход, калі чарговую "элегантную перамогу" на выбарах нязменны прэзідэнт ужо атрымаў летась? Ну не дзеля таго ж намячаецца чарговае нятаннае мерапрыемства, каб пяірыць праўладных кандыдатаў на выбарах у Палату прадстаўнікоў, што чакаюцца ў верасні (злыя языкі кажуць, што новыя яе склад і так даўно зацверджаны).

Не атрымаецца і адрапартаваць пра дасягненні мінулай пяцігодкі (2011–2015 гады), бо яе з трэскам правалілі. Дастаткова згадаць, што планавалася давесці сярэдні заробак да тысячы долараў, а ён цяпер бліжу трохсот. Новая ж пяцігодка пачалася яшчэ горай: працягвае падаць валавы ўнутраны прадукт, валіцца экспарт, адміністрацыя прагназуюць зацяжную рэцэсію.

Адзінае, што магло б апраўдаць у такіх умовах форум з гучнай назвай, – гэта намер афіцыйнага лідара заручыцца сімвалічнай падтрымкай народа ў пытанні даўно наспелых рэформаў. Але такога ходу канём ад Лукашэнкі чакаць відавочна не выпадае. Апошнія месяцы ён дэманстратыўна бэсціць неназваных рэфарматараў ва ўрадзе, прычым фактычна адкрытым тэкстам дае зразумець, што засцерагаецца палітычнай дэстабілізацыі.

Ва ўрадзе ж не дурні, каб лішні раз падстаўляць галаву. Таму праект праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2016–2020 гады, якую мяркуецца ўхваліць на Усебеларускім сходзе, – гэта, паводле ацэнкі незалежных экспертаў, эклектычны набор агульных пажаданняў без механізмаў іх рэалізацыі. Карацей, ні рыба ні мяса. Ніякім сістэмным рэфармаваннем у дакуменце не патыхае. Напрыклад, прадугледжваецца "забеспячэнне прыбытковай працы найбуйнейшых дзяржаўных прадпрыемстваў", хоць заводам-зомбі не дапамаглі шматгадовыя фінансавыя ўліванні (на якія цяпер яшчэ і банальна грошай няма) і дзяржсектар даўно трэба рэструктураваць, у прыватнасці ісці на рашучую прыватызацыю. Але нядаўна на МАЗе Лукашэнка заявіў рабацягам, што захавае завод, нават калі "давядзецца з вас зняць, даруйце мне, апошнюю шкуру" (ацаніце гэта красамоўнае "з вас").

Карацей, кіраўнік дзяржавы ўпарта спадзяецца перасядзець крызіс. Гэта нейкая ірацыянальная вера, што чарговы раз пашэнціць: мо нафтавыя цэны зноў падскочаць, мо ў нас чорнае золата геолагі раскапаюць, мо нейкія змілуюцца інвестыцыямі, мо Расія зноў кінецца купляць нашы лядоўні і трактары... Так што хутчэй Беразіна ды Нёман пацякуць у адваротны бок, чым мы пабачым на трыбуне V Усебеларускага сходу Лукашэнку-рэфарматара.

Такім чынам, у гэтага мерапрыемства застаецца адзіны сэнс – рытуальна-прапагандысцкі. Палітолаг Валерый Карбалевіч параўноўвае меркаваны сход з парадам, які Сталін зладзіў у Маскве 7 лістапада 1941 года, калі немцы ўжо бачылі ў біноклі Крэмль. Лукашэнка хоча падкрэсліць, што ён па-ранейшаму ўпэўнены і непераможны.

І ўжо відавочна, якія прапагандысцкія маніпуляцыі вызначаць танальнасць сходу. У прыватнасці, кіроўныя дзеячы будуць апраўдваць правал мінулай пяцігодкі кепскімі знешнеэканамічнымі ўмовамі: танная нафта, санкцыі супраць Расіі, сусветны крызіс (якога насамрэч няма, глабальная эканоміка хай сабе пацііху, але расце).

Між тым незалежныя эканамісты даўно дзяўблі, што нафтавая дурніца скончыцца. Хто вам замінаў перабудоўваць нацыянальную гаспадарку на сучасны лад, пераходзіць да эканомікі ведаў у так званыя тлустыя гады? А хіба вам не казалі, што вылезе бокам прывязка да Расіі з яе адсталай сыравіннай эканомікай ды агрэсіўнымі замашкамі? Так што сёння Беларусь расплачваецца за недальнабачнасць і рэтраградства сваёй кіроўнай вярхоўкі.

Але ж наверсе не збіраюцца пасыпаць галаву попелам. Наадварот, прапаганда гне лінію ў духу сатырычнага вершыка савецкіх часоў: "Прошла зима, настало лето, спасибо партии за это". Іначай кажучы, за велізарную заслугу цяперашняй улады выдаецца мірнае неба над галавой. І галоўнакамандуючы нядаўна чарговы раз давоўзіў, як ён заклапочаны, каб у нас былі дальнабойныя ракеты, бо беларусы, маўляў, надта ж пераймаюцца пытаннямі абароназдольнасці.

Ракеты ракетамі, але народ усё ж найперш заклапочаны цяперашняй абдзіралаўкай, якой улады спрабуюць кампенсаваць адсутнасць рэформаў. Вось і замест сапраўдных пенсійных рэформаў у нас робяць тую ж абдзіралаўку: банальна павышаючы ўзрост выхаду на заслужаны адпачынак, у людзей проста адбіраюць грошы за некалькі гадоў. Між тым можна спрагназаваць, што на Усебеларускім сходзе старанна адабраных "прадстаўнікоў мас" змусяць агучваць дыфірамбы непапулярным захадам: маўляў, мы ўсё жыццё марылі працаваць жылы некалькі лішніх гадоў (як быццам цяпер пенсіянерам нехта забараняе працаваць, калі маеш ахвоту ды здароўе).

Але сумніўна, што такія фальшывыя хваласпевы ўздымуць папулярнасць правадыра. Электаральны рэйтынг Лукашэнкі, паводле дадзеных НІСЭПД, ужо ў сакавіку, яшчэ да пенсіённага ўказа, упаў да 27,3%. Сёння ж былога куміра бэсцяць і ніяк не згадваюць яго ранейшага цвёрдага электарату.

Натуральна, мяне асабіста хвалюе не тое, што спаўзае рэйтынг "адзінага ў Беларусі палітыка", а тое, што на тле фальшывай прапагандысцкай патэтыкі спаўзае ў яму сама Беларусь. Як казаў герой старога фільма, загрымім пад фанфары. Ратаваць трэба не ўладу, а краіну.

ПРОИСШЕСТВИЕ

## Инкассаторская машина сбила инспектора ГАИ и мотоциклиста





Это произошло вчера в Минске.

По рассказам очевидцев, инспектор ГАИ решил остановить мотоциклиста, который двигался со стороны улицы Козлова к проспекту Независимости, но тот не подчинился указанию. В какой-то момент милиционер вроде ухватился за мотоцикл, и тот потащил его за собой на перекресток. Но тут поменялся сигнал светофора, и двигаться начали те, кто ехал по проспекту. «Первые два ряда их видели и тормознули, а в третьей полосе водитель инкассаторской машины, не заметив, поехал и сбил обоих», – свидетельствуют очевидцы.

Вчера вечером мы решили выяснить, как врачи оценивают состояние инспектора ГАИ и мотоциклиста после ДТП.

*«По имеющейся информации, инспектор ГАИ прооперирован, врачи дают предварительные прогнозы, что самое худшее позади, – сообщил «Народной Воле»* официальный представитель Следственного комитета по городу Минску **Александр Герасимов**. *– Жизни мотоциклиста ничто не угрожает».*

ПРОТЕСТ!

# Сельхозпоселок не сдается...

Почти полторы тысячи человек поставили подписи под коллективным обращением к президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко. Они требуют «остановить массовое уничтожение имущества граждан (индивидуальных домов с высокими потребительскими качествами)», проживающих в Сельхозпоселке, как называют его минчане.



Отправной точкой конфликта людей с властями стал генплан развития столицы, утвержденный решением горисполкома 22 июня 2010 года. Согласно ему, до 2030 года в зоне 49 Жм должно быть снесено 1070 индивидуальных домов на территории 129 гектаров, расположенных в границах улиц Некрасова, Собинова, Олешева, Восточной. При этом 119 строений могут пойти «под бульдозер» уже в 2017 году. Это те, которые находятся в границах улиц Тиражной, Достоевского, Корш-Саблина, Гало, Верхней, Комаровское кольцо, Тургенева, переулка Верхнего. В основном это одно-двухэтажные дома со всеми коммуникациями, земельными участками, ограждениями.

Что возмущает владельцев частных домов? То, что существующее законодательство учитывает интересы государства, но фактически игнорирует права граждан. Сельхозпоселок застраивался на основании постановления Советов министров БССР №1381 от 5 октября 1948 года. Это было трудное послевоенное время, и людям нужно было дать возможность скорее получить крышу над головой. Сколько сил, сколько средств пришлось вложить каждому из застройщиков, чтобы соорудить дома с высокими потребительскими качествами, облагородить земельные участки, создав все условия для проживания и отдыха членов семей!

И вот решение властей о строительстве многоэтажных жилых домов на месте индивидуальных в том же Сельхозпоселке. Чем оно продиктовано? Скорее всего тем, что в микрорайон «Зеленый Луг» пойдет следующая ветка метро, и, чтобы обеспечить ее загруженность, появилась необходимость застроить прилегающие территории высотными домами, в которых будет проживать во много раз больше людей, чем теперь проживает в Сельхозпоселке. Те, чьи условия жизни ухудшаются, естественно, не согласны с таким подходом городских властей. А потому они обращают внимание А.Г.Лукашенко на несовершенство существующего законодательства, позволяющего столичным чиновникам действовать без учета общественного мнения. Подписавшиеся под обращением считают, что должностные лица Советского райисполкома г.Минска формально подходят к рассмотрению заявлений и предложений домовладельцев Сельхозпоселка: фактически их жилищные условия ухудшаются, хотя в Конституции Республики Беларусь и многих других законодательных актах нет такой нормы, которая позволяла бы властям идти на этот шаг.

Обращаясь к президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко, почти полторы тысячи проживающих в Сельхозпоселке считают, что генплан развития Минска до 2030 года следует коренным образом пересмотреть с учетом интересов всех жителей столицы.

Образно говоря, Сельхозпоселок не сдается. Как будут развиваться события в дальнейшем, «Народная Воля» расскажет своим читателям.

**Клавдия ВАСИЛЬЧЕНКО.**

